# Праграма на сёння і на 20 год

У момант пісання гэтых слоў XXII З'езд КПСС прадаўжаў яшчэ сваю працу. Аднак ужо на аснове двух дакладаў таварыша Хрушчова ды першых дзён спрэчак можна ўявіць сабе значэнне З'езду — і то не толькі для народаў Савецкага Саюза, але і для ўсяго свету.

XXII З'езд КПСС вызначае трэцюю чарговую праграму савецкіх камуністаў. Ажыццяўленне гэтай праграмы на працягу дваццаці год створыць у СССР грамадскасць найвышэйшага ўзроўню заможнасці, культуры і асабістага шчасця. Гэта канкрэтная задача пабудовы камунізма будзе мець велізарнае значэнне для развіцця і ўмацавання рэвалюцыйных сіл ва ўсіх краінах — так сацыялістычных, як і капіталістычных.

Побач мэты, сягаючай у будучыню, XXII З'езд вызначае таксама бягучыя заданні.

М. С. Хрушчоў звярнуў увагу на тры элементы, якія на працягу апошніх гадоў змянілі аблічча свету.

Першы элемент — гэта «рэзультат паступовага развіцця грамадскасці нашай эпохі, у выніку чаго абаснавалася сацыялістычная сістэма. Другі — гэта правал каланіяльнай сістэмы. Трэці — гэта гвалтоўнае ды ўсебаковае аслабленне капіталізму і далейшае паглыбленне яго агульнага крызісу».

Пры такіх умовах у свеце пачалося спаборніцтва дзвюх сістэм: сацыялістычнай і капіталістычнай. Дагэтуляшні тэмп развіцця Савецкага Саюза ды ўсіх іншых сацыялістычных краін бясспрэчна паказвае за кім будзе перамога ў гэтым спаборніцтве.

З растучай перавагі сацыялістычных дзяржаў над капіталістычнымі XXII З'езд зрабіў вывад, што «у сучасную эпоху войны паміж дзяржавамі не з'яўляюцца непазбежнымі, што можна іх прадухіліць». Ужо зараз у распараджэнні сіл, якія адстойваюць мір, знаходзяцца сродкі абмяжоўваючыя магчымасці агрэсіўных намераў імперыялістаў.

XXII З'езд падтрымоўвае прынцып перагавораў як адзіную дарогу для вырашэння канфліктаў і замацавання мірнага суіснавання.

Заклік да перагавораў датычыць не толькі Германскай праблемы, але таксама і ў агульнага раззбраення ды рэгіянальных пактаў бяспекі — гэта значыць тых спраў, якія для мірнага развіцця свету маюць асноўнае значэнне.

Вынікі XXII З'езду несумненна будуць мець уплыў на хуткае развіццё паступовага руху і камуністычных партый ва ўсім свеце. КПСС указвае ж камуністам вялікую мэту будовы свабодных грамадскасцей, у адносінах паміж якімі будзе толькі і выключна мір ды дружба, будзе атмасфера, якую называюць сацыялістычным гуманізмам.

XXII З'езд садзейнічае замацаванню новых, выплываючых з ленінізма, асноў адзінства і супрацоўніцтва камуністычных партый розных краін. У гэтых асновах не знаходзіцца месца для замыкання вачэй на ўхібы такога роду, як рэвізіянізм югаслаўянскіх камуністаў ці дагматызм, якога не хочуць пакінуць правадыры Албанскай партыі працы.

Рашучая барацьба з гэтымі ўхібамі стварае ўмовы для пабудовы непарыўнага адзінства камуністаў, адзінства, якое павядзе да новых перамог сацыялізма.

УЛ. ЛАЗІНСКІ

ВЕСТКІ з БССР

# БДУ 40 ГОД



Будынак Беларускага дзяржаўнага універсітэта.

30 кастрычніка 1921 года, роўна 40 год таму, першая ў Беларусі вышэйшая навучальная ўстанова шырока расчыніла свае дзверы для студэнтаў.

На пачатку свайго існавання універсітэт быў адзіным цэнтрам навуковай думкі ў Беларусі, вакол якога групаваліся прафесарска - выкладчыцкія сілы. Пазней на базе некаторых факультэтаў універсітэта ўзнікла некалькі самастойных навучальных устаноў, як педагагічны, медыцынскі інстытуты і іншыя.

У 1941 годзе пры універсітэце ўжо існавала 17 добра абсталяваных лабараторый, гістарычна-археалагічны, геолага - мінералагічны і заалагічны музеі, вялікая бібліятэка.

У час нямецкай акупацыі з 1943 па 1944 год універсітэт быў эвакуіраваны і працаваў пад Масквой, на чыгуначнай станцыі Сходня, карыстаючыся лабараторыямі Маскоўскага універсітэта.

Адступаючы пад ударамі савецкай арміі фашысцкія захопнікі знішчылі большую частку будынкаў універсітэцкага гарадка, усё лабараторнае і вучэбнае абсталяванне, спалілі бібліятэку.

Сёння ўтульна выглядае універсітэцкі гарадок. Побач адноўленых будынкаў узняліся гмахі чатырохпавярховых інтэрнатаў, а таксама галоўны корпус універсітэта з фасадам на плошчу імя Леніна. 7 тысяч юнакоў і дзяўчат спяшаецца кожную раніцу на лекцыі або ў чытальныя залы. 30 дактароў і каля

(Працяг на стар. 7)

## По слядах Кузняцова

# ПАРТЫЗАНСКАЯ ДРУЖБА

Чытачы нашы палюбілі жывую постаць Мікалая Кузняцова з аповесці Мядзведзева «За слёзы бацькоў», якую мы ў гэтым годзе друкавалі на сваіх старонках. Легендарны разведчык загінуў. Засталіся яго сябры, якія любоўна ахоўваюць памяць аб баявым таварышу. Дзмітры Мядзведзеў, камандзір атрада, у якім змагаўся Кузняцоў, зрабіў яго галоўным героем сваёй аповесці.

Дзмітры Мядзведзеў памёр. Не так даўно выйшла ў Маскве кніжка пра гэтага слаўнага партызанскага камандзіра. Напісаў яе былы лекар атрада Цесарскі. Раней гэты сам аўтар выдаў кніжку пра атрад. Цяпер мы даведаліся, што над кнігай аб баявых буднях атрада Мядзведзева працуе і Мікалай Струцінскі — адзін з самых блізкіх сяброў Кузняцова. Мікалай Струцінскі жыве цяпер у Львове, дзе таксама жывуць і працуюць многія баявыя саратнікі Кузняцова.

Нядаўна ТАСС звярнулася да Мікалая Струцінскага і папрасіла расказаць аб некаторых малавядомых эпізодах баявой дзейнасці Кузняцова. Вось што расказаў Струцінскі:

— Кузняцоў распрацаваў план знішчэння фашысцкага генерала Мельцара, — сказаў М. У. Струцінскі. — З гэтай мэтай мы прыбылі на машыне ў Роўна. Мікалай Іванавіч быў у форме гаўптмана (капітана), а я, яго шафёр, у форме гітлераўскага салдата. Мы спынілі машыну на вуліцы Міцкевіча, дзе ў абедзенны час павінен быў з'явіцца генерал. Кузняцоў выйшаў з машыны. Знешне ён выглядаў на дзіва спакойна. Крыху адставіўшы ўперад нагу, памахваў шэрымі афіцэрскімі пальчаткамі, курыў цыгарэту, зрэдку паглядваючы на гадзіннік. Раптам паказалася машына з гітлераўцамі. Аб'ехаўшы нас, яны сталі ўперадзе. Два жандарскія афіцэры накіраваліся да мяне і патрабавалі дакументы. Пасведчанне разглядалі прыдзірліва. Адзін з іх штосьці сказаў, а потым закрычаў на мяне. Становішча рабілася напружаным. Але тут на выручку паспяшаўся мой баявы сябар.

— У чым вінаваты шафёр, панове? — ветліва спытаў ён у гестапоўцаў.

— Дакументы, гер гаўптман, не ў парадку. На пуцёўцы няма штампа, не ўсе графы запоўнены, як належыць.

Мікалай Іванавіч імгненна ацаніў абстаноўку. Замест адказу ён павярнуўся ў бок вуліцы, па якой на Захад ішлі разгромленыя калоны гітлераўцаў.

— А гэта, панове, па-вашаму, парадак? Пры такім беспарадку ці ж можна аформіць як належыць пуцёўку?

— Да некаторай ступені вы маеце рацыю, — адказаў фашыст. — А скажыце, да якой часці вы належыце? Прашу вашы дакументы, — не супакойваўся жандар.

Кузняцоў падаў «пасведчанне», зробленае ў партызанскім атрадзе.

— Пауль Зіберт, гаўптман вермахта, — прачытаў уголас гітлеравец. — А дзе дыслакуецца ваша часць?

— Гэта ваенная тайна.

— Тады скажыце, у каго можна даведацца?

— У генерала-лейтэнанта Кіцынгера, — з пафасам адказаў Мікалай Іванавіч. — Звярніцеся, калі ласка, асабіста да яго.

— Я больш вас не затрымліваю, гер гаўптман.

Карнікі адказыралі, селі ў машыну і паехалі. Генерал Мельцар у гэты дзень не з'явіўся, і мы адправіліся назад.

Расказваючы гэты эпізод, Струцінскі падкрэсліў, што Мікалай Іванавіч свята выконваў суворaўскае правіла: сам гінь, а таварыша выручай.

# КАМУНІЗМ — НАЙВЯЛІКШАЯ СІЛА СУЧАСНАСЦІ

На працягу вякоў камунізм быў толькі марай. У сярэдзіне мінулага стагоддзя геніяльныя настаўнікі пралетарыяту К. Маркс і Ф. Энгельс ператварылі яго з мары ў навуку, у магутны рух рабочага класа. Абапіраючыся на аб'ектыўныя законы грамадскага развіцця, яны даказалі немінучасць гібелі капіталізму і перамогі камунізма. У славутым «Маніфесце Камуністычнай партыі» Маркс і Энгельс глыбока абгрунтавалі мэты і задачы пралетарыяту як магільшчыка капіталізму, натхнілі рабочы клас на барацьбу супраць эксплуататараў. Навуку аб камунізме ўзбагаціў і развіў далей прадаўжальнік іх справы У. І. Ленін. Ён і створаная ім слаўная Камуністычная партыя яшчэ вышэй узнялі сцяг камунізма, сцяг барацьбы за свабоду і шчасце працоўных.

У праекце Праграмы КПСС сказана: «Мужная і самаадданая барацьба пралетарыяў усіх краін наблізіла чалавецтва да камунізма. Спачатку дзесяткі і сотні, потым тысячы і мільёны людзей, натхнёныя ідэаламі камунізма, ішлі на штурм старога свету. Парыжская Камуна, Кастрычніцкая рэвалюцыя, сацыялістычныя рэвалюцыі ў Кітаі і ў радзе іншых краін Еўропы і Азіі — такія важнейшыя гістарычныя рубяжы гераічных бітваў міжнароднага рабочага класа за перамогу камунізма. Пройдзены гіганцкі шлях, паліты крывёю барацьбітоў за народнае шчасце, шлях слаўных перамог і часовых паражэнняў, перш чым камунізм, які калісьці здаваўся толькі зданню, стаў найвялікшай сілай сучаснасці, грамадствам, што будуецца на велізарных прасторах зямнога шара».

Праект Праграмы КПСС, які захоўвае поўную пераемнасць з дзвюма ранейшымі праграмамі партыі, з'яўляецца заканамерным прадаўжэннем ідэй, упершыню абвешчаных у «Камуністычным Маніфесце». У ім дадзена разгорнутая характарыстыка сучаснай эпохі, асноўны змест якой складае пераход ад капіталізму да сацыялізма. Пачатак гэтаму пераходу паклала савецкая краіна, у якой сацыялізм перамог поўнасцю і канчаткова. Савецкі народ, кіруемы партыяй камуністаў, здзейсніў найвялікшы рэвалюцыйны подзвіг. Чалавецтва атрымала рэальна існуючае грамадства і правераную на вопыце навуку аб пабудове сацыялізма.

У выніку сацыялістычных рэвалюцый у радзе еўрапейскіх і азіяцкіх краін склалася сусветная сістэма сацыялізма. Гэта новы тып эканамічных і палітычных адносін паміж краінамі, які характарызуецца поўным раўнапраўем, адзінствам агульных інтарэсаў і мэт, братняй узаемадапамогай і павагай нацыянальнай незалежнасці. Ужо трэцяя частка чалавецтва будуе новае жыццё пад сцягам навуковага камунізма.

За параўнаўча кароткі гістарычны тэрмін краіны сацыялістычнага лагера накапілі багаты вопыт будаўніцтва сацыялізма. Улада і панаванне сацыялістычных вытворчых адносін забяспечваюць няспынны гаспадарчы ўздым гэтых краін, няўхільны і планамерны рост эканомікі, яго хуткія і ўстойлівыя тэмпы. На аснове каардынацыі іх народна - гаспадарчых планаў, спецыялізацыі і кааперавання вытворчасці склаўся міжнародны падзел працы, які садзейнічае паскарэнню ў кожнай сацыялістычнай краіне развіцця прадукцыйных сіл, найбольш рацыянальнаму і поўнаму выкарыстанню ўнутраных рэсурсаў. Дасягнутыя народна - дэмакратычнымі дзяржавамі поспехі ў эканамічным і культурным будаўніцтве поўнасцю пацвердзілі, што ва ўсіх краінах, незалежна ад узроўню іх развіцця, размераў тэрыторыі і колькасці насельніцтва сапраўдны прагрэс магчымы толькі на шляхах сацыялізма. Поўную яго перамогу ў рамках усёй сістэмы забяспечваюць згуртаванне сацыялістычных дзяржаў у адзін лагер, яго мацнеючае адзінства і няспынна растучая магутнасць.

# ЛЮБЛІНСКІЯ УКРАІНЦЫ

З таварышам Міколам Каралько я пазнаёміўся ў Любліне. Гэта ўжо пажылы, але вельмі энергічны і жыццерадасны чалавек. Многа яму давялося перажыць. За санацыі амаль 10 год прасядзеў у турмах за дзейнасць у радах Камуністычнай партыі Заходняй Украіны. Менавіта з таго часу і захаваліся ў Каралько найлепшыя ўражанні аб беларусах, членах КПЗБ, з якімі шмат год давялося дзяліць турэмную нядолю.

— Памятаю, — успамінае Мікола Каралько, — як аднойчы перавозілі мяне з групай пяцёх беларусаў да следчай турмы ў Варшаве. Самаход, якім нас везлі, затрымаўся ля адной вуліцы, дзе варшаўскія рабочыя праводзілі рамонт.

— Ну што, хлопцы, заспяваем? — прапанаваў адзін з КПЗБ-оўцаў. І маладыя, здаровыя галасы зацягнулі: «Ад веку мы спалі». Я таксама далучыўся да іх. Ведаў добра гэтую песню. Сябры ў турме навучылі.

Варшаўскія рабочыя як па камандзе кінулі працаваць. Яны падаліся бліжэй да самахода. Незадоўга самаход наш патанаў у людскім натоўпе, якога ўсё больш прыбывала. Жыхары сталіцы, мабыць, у першыню тады пачулі гэтую беларускую песню.

— Прэч з фашысцкім урадам! — усклікнуў адзін з КПЗБ-оўцаў, калі закончылася песня.

— Прэч! Прэч! — адклікнуўся натоўп. Паліцэйскія не маглі далей вытрымаць.

— Едзь! — загадаў камандзір канвоя шафёру. Самаход ірвануўся па раскопанай вуліцы.

З турмы выйшаў на пачатку вайны. А потым была гітлераўская акупацыя. Міколу Каралько давялося перажыць канцэнтрацыйны лагер.

Зараз Мікола Каралько актыўны дзеяч Украінскага грамадска - культурнага таварыства.

Ён сакратар партыйнай групы пры Галоўным праўленні УГКТ і член гарадскога праўлення таварыства ў Любліне.

Таварыш Каралько добра знаёмы з жыццём украінскага насельніцтва на Люблінщчыне.

Зараз на тэрыторыі Люблінскага ваяводства налічваецца каля 30 тысяч украінцаў.

УГКТ на Люблінщчыне налічвае 300 членаў. Найбольш актыўная дзейнасць таварыства канцэнтруецца ў Бела Падляшскім павеце. Тут існуе павятовае праўленне УГКТ і 6 гурткоў, якія дзейнічаюць у вёсках. Гурток у Забалоцці нядаўна сарганізаваў калектыў ігры на музычных інструментах, у якім актыўна ўдзельнічае украінская пазашкольная моладзь. У пачатковай школе ў Забалоцці дзеці вучацца украінскай мовы. Украінскае насельніцтва прымае таксама актыўны ўдзел у гаспадарчым развіцці Люблінщчыны. Ёсць у Парчэўскім павеце вёска Кадэнец. Тут ужо 13 год існуе прадукцыйная спулдзельня, старшынёй якой з'яўляецца грам. Ваврэшчук. Гэта найстарэйшая спулдзельня ў Люблінскім ваяводстве.

У самым Любліне таксама многа жыве украінцаў. Працай таварыства кіруе тут Гарадскі аддзел УГКТ, старшынёй якога з'яўляецца грам. Еўстахі Місевіч. Ужо 5 год існуе пры гарадскім аддзеле ў Любліне украінскі хор. За гэты час ён даў на Люблінщчыне звыш 60 канцэртаў. Люблінскі хор пабываў таксама з гастролямі на Савецкай Украіне, дзе яго вельмі цёпла прымалі.

Рэпертуар хору вельмі разнастайны. Ён выконвае украінскія, польскія, рускія і беларускія народныя песні. Удзельнікі хору — гэта рабочыя, інтэлігенты і студэнты, моладзь і старэйшыя, украінцы і палякі, ад 17-гадовай Міраславы Артынюк, якая толькі што закончыла сярэднюю адукацыю, да амаль 70-гадовага пенсіянера — Міколы Уляніцкага. Варта падкрэсліць, што з аддзелам УГКТ у Любліне супрацоўнічаюць і студэнты беларускай нацыянальнасці, якія вучацца на вышэйшых установах горада.

У час сваёй пабыўкі ў Любліне мне давялося быць на рэпетыцыі украінскага хору. Адбываюцца яны ў Люблінскім доме культуры, які змяшчаецца ў старажытным Люблінскім замку. Вось выступае Ірэна Возьняк. Яна выконвае

(Працяг на стар.5)




Канцэрт прысвечаны украінскаму народнаму паэту — Тарасу Шаўчэнка. Выступае ўкраінскі хор з Любліна.

# ДА ЦВЯРОЗЫХ

Працяг са стар. 1

І яшчэ адно: мы лічым, што ў барацьбу з алкагалізмам павінны больш актыўна чым да гэтае пары ўключыцца органы МО, караючы мандатамі аматараў алкаголю.

**— Якую арганізацыйную сістэму лячэння алкаголікаў Вы, доктар, лічыце найлепшай?**

— Перш за ўсё добра сарганізаванае адкрытае лячэнне тзв. парадні адвыковыя. Зараз кожны павятовы горад мае такую парадню. Трэба толькі падрыхтаваць адпаведны персанал і палепшыць працу міліцыі, каб тэрмінова прывозіла ўпартых алкаголікаў на лячэнне.

У гэтым годзе курс супрацьалкагольнага лячэння праходзіць у нас 5000 чалавек, але трэба сказаць, што значна больш не лечыцца. За апошніх павінны ўзяцца парадні, аб іх сем'ях — паклапаціцца Камітэты грамадскай апекі.

Алкаголікаў, якія не надаюцца для лячэння ў парадпях адкрытых, лякарска - грамадскія камісіі павінны кіраваць у закрытыя заклады. Дагэтуль лячэнне такое праводзіцца ў шпіталі ў Харошчы пры 20—30 месцах. І трэба адзначыць — яно не дае пажаданых вынікаў. Па-першае таму, што замала месц, а па-другое, што 3—4-тыднёвае лячэнне — гэта фікцыя. Лячэнне алкаголіка павінна прадаўжацца не менш' як год часу. Таму мы за поўную ізаляцыю паталагічных алкаголікаў у спецыяльных лячэбных закладах, дзе б бацька, а часта і маці лячыліся і адначасова працавалі на ўтрыманне сваіх дзяцей.

**— А што скажаце аб п'янстве сярод моладзі?**

— Гэта справа найбольш сумная. Ад гарэлкі — маладыя хуліганы, многа маладых людзей стае перад судом за злачынствы, зробленыя пад уплывам алкаголю, вельмі непакоіць прастытуцыя, якая пашыраецца сярод дзяўчат. Беластоцкая «выцверазілаўка» паказвае, што павялічваецца колькасць моладзі, якая пападае сюды ва ўзросце 18—20 год. А трэба ж памятаць, што гэтыя людзі выдадуць патомства — патомства алкаголікаў, значыць больш імбецылаў, крэтынаў, эпілептыкаў, недаразвітых, з тупымі розумамі, няздольных у вучобе дзяцей.

**— Якое месца ў краіне займае нашае ваяводства ў спажыванні алкаголю?**

— Першае.

**— Якая Ваша думка, доктар, аб спажыванні пастаянным і спажыванні пры аказіях, так сказаць, вытлумачальных? Ці віно менш шкоднае ад гарэлкі?**

— Менавіта ад аказій пачынаецца. Ад аднаго кілішка. Але часта адным не канчаецца. Зрэшты, быццам бы не выпадае, не піць, калі ўсе п'юць. І так чалавек, нават непітушчы, папаўшы ў неадпаведную кампанію, можа сыйсці на дрэнную дарогу. Алкаголік з'яўляецца магнітам, які прыцягвае непітушчых. А дадайце да гэтага факт, што ў нас ніякая забава, таварыскае спатканне, ці вечарына не адбываюцца без алкаголю. І што ў кожным кіёску купіце портэр, віно, піва. А віно абсалютна не з'яўляецца менш шкодным ад гарэлкі. Нават і піва. У адным літры піва знаходзіцца 100 грам гарэлкі.

Нельга даваць віна, піва дзецям. Нават малыя дозы алкаголю пакідаюць след у арганізме, асабліва на мазгавой абалонцы і страўнікавым праходзе. Празмернае спажыванне алкаголю вядзе да рака.

**— І апошняе. Многія лічаць, што адзіным радыкальным спосабам перамогі алкагалізму была б прагібіцыя. Што аб гэтым думаеце Вы?**

— Камітэт не выступае за ліквідацыю прадукцыі і продажы алкаголю. Мы змагаемся з алкагалізмам, з яго вынікамі. Але калі вас цікавіць прагібіцыя, скажу свае меркаванні. Гэта бязвынікавы спосаб, непрактычны. Застасаванне яго не дало б добрых вынікаў. Наадварот, пашырыла б нелегальны выраб гарэлкі і нелегальны продаж. Сама ідэя прагібіцыі не новая. Спрабавалі ўводзіць яе ў жыццё некаторыя краіны — ЗША, Канада. І праз нейкі час вымушаны былі адказацца. У барацьбе з алкагалізмам вялікую ролю адыгрывае свядомасць усяго грамадства. Усе цвярозыя людзі і самі алкаголікі павінны глыбока зразумець, што алкагалізм — гэта ганебная пляма на целе народа, шкодная не толькі для здароўя, але небяспечная і з пункту гледжання грамадскага, гаспадарчага і палітычнага. Алкаголік — чалавек з абніжанай прадукцыйнасцю працы і з затрачанай грамадскай чуйнасцю.

Размову правяла
**ВЕРА ЛЕЎЧУК**

---

Сацыялістычныя краіны ўсё шырэй разгортваюць барацьбу за рашаючую перамогу над капіталізмам у эканамічным спаборніцтве. У бліжэйшы перыяд яны даб'юцца перавагі над сусветнай капіталістычнай сістэмай па агульнаму ўздыму прамысловай і сельскагаспадарчай вытворчасці. Ужо зараз усё ў большай ступені ўзрастае ўздзеянне сусветнай сацыялістычнай сістэмы на ўвесь ход грамадскага развіцця ў інтарэсах міру, дэмакратыі і сацыялізма.

Як падкрэсліваецца ў праекце Праграмы КПСС, зараз «галоўны змест, галоўны напрамак і галоўныя асаблівасці гістарычнага развіцця чалавецтва, вызначаюць сусветная сацыялістычная сістэма, сілы, якія змагаюцца супраць імперыялізму, за сацыялістычную перабудову грамадства».

Сацыялізм, які перамог у СССР і краінах народнай дэмакратыі, сваім прыкладам аказвае вялікі рэвалюцыянізуючы ўплыў на розумы працоўных капіталістычнага свету, умацоўвае іх сілы і надзеі, узнімае на барацьбу за свабоду і сацыяльны прагрэс. Капіталізм перажывае найглыбейшы крызіс. У той час як свет сацыялізма расшыраецца, свет капіталізма звужаецца. Прыгавор гісторыі няўмольны, капіталізм аджыў свой век і немінуча павінен уступіць месца больш прагрэсіўнаму грамадскаму ладу — сацыялізму.

Сучасны капіталізм да крайнасці абвастрыў усе супярэчнасці. Ён ператварыўся ў тормаз грамадскага развіцця, уступіў у перыяд свайго заняпаду і гібелі. Ад асновы да вяршыні яго ахапіў немінучы працэс разлажэння, усё выразней раскрываецца яго рэакцыйная, антыдэмакратычная сутнасць. Узмацняюцца супярэчнасці паміж народам і манаполіямі, павялічваецца антаганізм і нарастае барацьба паміж працай і капіталам.

Велізарны вопыт барацьбы супраць імперыялізму і яго прыхільнікаў у радах рабочага класа накапіў міжнародны рэвалюцыйны рух. Ён стаў ідэалагічна больш сталым, валодае вялікай арганізаванай магутнасцю і баявым наступальным духам. Павышаецца роля прафсаюзнага руху, які аб'ядноўвае многамільённыя масы працоўных.

Пралетарыят разам з іншымі слаямі народа вядзе рашучую барацьбу за шырокую дэмакратыю. Агульнадэмакратычная барацьба супраць фінансавай алігархіі, імперыялістычных манаполій не аддаляе сацыялістычную рэвалюцыю, а набліжае яе. Барацьба за дэмакратыю — гэта састаўная частка барацьбы за сацыялізм.

Кіруючай сілай сусветнага рэвалюцыйнага руху, яго выпрабаваным авангардам выступаюць камуністычныя партыі. Заснаваныя на прынцыпах марксізма - ленінізма, яны даказалі яго жыццёвасць, сваю здольнасць не толькі прапагандаваць, але і ажыццяўляць на практыцы вялікія ідэалы навуковага камунізма. У асобе камуністычных партый працоўныя бачаць верных абаронцаў сваіх інтарэсаў і згуртоўваюцца пад іх сцягамі. Зараз міжнародны камуністычны рух стаў як ніколі магутным і неадольным.

Узнікненне сацыялізма знамянуе наступленне эры вызвалення прыгнечаных народаў. Пад напорам магутнай хвалі нацыянальна - вызваленчых рэвалюцый разбураецца, развальваецца каланіяльная сістэма імперыялізму. На месцы былых калоній і паўкалоній узніклі дзесяткі маладых суверэнных дзяржаў, адыгрываючых важную ролю ў міжнароднай палітыцы. Народы, якія яшчэ не скінулі ланцугі каланіяльнага рабства, працягваюць гераічную барацьбу супраць чужаземных прыгнятальнікаў. З кожным днём устоі імперыялізму падточваюцца, яго канчатковы крах немінучы.

У праекце Праграмы КПСС указваецца, што па прамой дарозе да сацыялізма, якую праклала савецкая краіна, рана ці позна пойдуць усе народы. Сацыялізм — гэта адзіна правільны шлях да свабоды і шчасця, ён адпавядае інтарэсам абсалютнай большасці кожнай нацыі. Сацыялізм забяспечвае хуткі ўздым эканомікі і культуры, не за вякі, а пры жыцці аднаго пакалення ператварае адсталую краіну ў індустрыяльную, стварае высокі матэрыяльны і культурны ўзровень жыцця ўсіх працоўных. Над светам праносіцца вялікая ачышчальная навальніца, несучы чалавецтву вясну, абнаўленне. Імперыялізм бяссільны спыніць неадольны вызваленчы працэс. Сучасная эпоха — гэта эпоха барацьбы дзвюх супрацьлеглых грамадскіх сістэм, эпоха сацыялістычных і нацыянальна - вызваленчых рэвалюцый, эпоха ліквідацыі каланіялізму і крушэння імперыялізму, эпоха трыумфу сацыялізма і камунізма ў сусветным маштабе.

«Камуніст Беларусі»

 




# ВАЎКІ ХАПАЮЦЬ ДЗЯЦЕЙ

**У шпіталі ў Лукнаў, у Індыі, лекары маюць дачыненне з вельмі дзіўным выпадкам, а менавіта, з дзіцём-ваўком. У 1956 годзе ў Паўночнай Індыі ў джунглях людзі заўважылі двух ваўкоў і з імі дзіўнае стварэнне з чалавечай галавою. Ваўкі ўцяклі, а іх менш растропны спадарожнік быў схвачаны. Ён кусаўся, па-воўчаму пішчаў, хадзіў ракам, аднак не сумняваліся, што гэта было дзіця.**

**Здзічэлага хлапчука па шраму на галаве пазналі сваякі, жыхары вёскі Агра. Аказалася, што шэсць год таму назад схапілі хлопчыка ваўкі. Пасля некалькіх год лячэння, дзіця, якое назвалі Ромам, пачало сядаць на кукішкі і есці пры дапамозе рук. Аднак паводзіны Рома яшчэ далёка да нармальных паводзін чалавека. Не ўмее ён хадзіць вертыкальна, не ўмее гаварыць.**

**Некаторыя лекары сцвярджаюць, што гэтае дзіця ненармальнае і паралізаванае, і непатрэбна вакол яго наробленa столькі шуму.**

**Шмат іншых лекараў прытрымліваюцца той думкі, што фізічныя недахопы з'яўляюцца вынікам жыцця ад наймаладшых год у цесных воўчых ямах, у акружэнні ваўкоў, якія выхоўвалі гэтае дзіця.**

## ДЗІЦЯ З ЭСКІСАГІРА

У наш час выкрылі некалькі падобных выпадкаў, калі дзікія звяры, асабліва ваўкі і мядзведзі, выхоўвалі дзяцей.

У 1959 годзе ў Турцыі, на поўнач ад Эскісагіра, паляўнічыя сарганізавалі аблаву на ваўкоў. Раптам пачулі яны нейкія неакрэсленыя крыкі, якія нічога супольнага не мелі з выццём ваўкоў. Аказалася, што гэта былі крыкі дзіцяці, якое хавалася ў глыбіні нары. Яму з выгляду можна было даць 12 год. Было пакрыта буйнымі доўгімі валасамі. Дзіця ела пазвярынаму. Інстынкты яго былі падобныя да воўчых. Кроў выклікала ў яго страх. Адкуль узялося дзіця? Нічога невядома. Магчыма, яно здолее ўвольніцца ад сваіх звярыных рэфлексаў, але пакуль што не аказвае ніякіх людскіх склоннасцей.

Такім чынам у XX стагоддзі знаходзімся перад новай легендай аб Роме і Рэме, якіх выхавала і выкарміла рымская ваўчыца.



На здымку: хлопчык, які быў забраны ваўкам у Індыі ў 1956 годзе.

У гісторыі наогул існуе многа падобных легенд. Кожнае пакаленне ўзбагачвала гэтыя расказы фантастычнымі падробнасцямі.

У 1544 годзе непадалёк мясцовасці Гэссэ ў Германіі, трохгадовае дзіця выхоўвалі ваўкі. Пасля некалькіх год хлопчык вярнуўся да людзей, але моцна сумаваў па мінулым жыцці сярод дзікіх звяроў, якія, як сцвярджаў, аддавалі яму найлепшыя порцыі ежы, клапаціліся, каб было яму цёпла (туліліся да яго). Прывыкшае да хацьбы на карачках, дзіця з цяжкасцю магло ўтрымоўвацца ў вертыкальнай пазіцыі.



Вяртанне дзяўчынкі да жыцця сярод людзей.

У 1767 годзе ў Венгрыі жыхары Фраўмарку, якія палявалі на мядзведзяў, заўважылі на снягу чалавечыя сляды. Сляды завялі да пячоры, у якой знаходзілася дзяўчынка. Яна была даволі вялікая, зусім голая і зусім дзікая. Толькі сілаю можна было яе вырваць з гэтага ўкрыцця. З вялікімі цяжкасцямі адвыкала яна ад сваіх харчоў, якія складаліся з сырога мяса, кары з дрэва і карэння.

## КАМАЛЯ І АМАЛЯ

Найбольш праўдападобная гісторыя з выпадкам выхоўвання дзяцей звярамі адбылася 40 год таму назад, якой быў сведкам індыйскі місіянер, ксёндз І.А.Л. Сінг. У 1920 годзе ён разам са сваёю жонкай выехаў распаўсюджваць евангелле сярод плямён у джунглі ў аколіцы Міднапорэ. Імкнучыся злікнідаваць стаі ваўкоў, якія тэрарызавалі жыхароў адной вёскі, ён заўважыў, што выходзяць з ямы тры ваўкі і дзве дзіўныя істоты, якіх галовы з профілю былі падобныя да чалавечых.

9 кастрычніка 1920 года была арганізавана спецыяльная экспедыцыя, мэтай якой было злавіць гэтыя цікавыя істоты. Каб гэта зрабіць, трэба было забіць кармільцаў, якія страшна баранілі сваіх чалавечых выхаванцаў. Абедзве дзяўчынкі вызвалілі, якіх назвалі Камаля і Амаля. Дзяўчынкі былі дастаўляны пад апеку ў дзіцячы дом у Міднагоры. Шмат тыдняў дзеці захоўваліся па-звярынаму. Яны ўдзень спалі, а ноччу вылі. Хадзілі на карачках, хлёбалі ежу з талерак.

Амаля праз некалькі месяцаў памерла. Камаля, выклікала ўражанне, што пагадзілася са сваім новым жыццём. Паступова цікавілася дзецьмі, якія былі ў дзетдоме, пераймала іх звычкі і забавы.

У 1924 годзе пачала яна крыху гаварыць і згаджалася стаяць на нагах. На жаль мускулы на нагах ніколі не атрымалі патрэбнай эластычнасці, каб без перашкоды хадзіць.

Дзякуючы цярплівай выхаваўчай працы, пачала яна добра развівацца. Можна ёй было нават давяраць некаторыя справы. Яе пасылалі па яйкі да куратніка, а таксама на вёску, каб што-небудзь прынесці. Яна магла ўжо ўсё сказаць, але гаварыла неразборліва.

Яе вяртанне да чалавечага жыцця ўсіх радавала. На жаль, пазней стала хварэць. І так памерла яна, пражыўшы восем год сярод ваўкоў і дзевяць год сярод людзей.

## НАВІНЫ ТЭХНІКІ

### ПАДВОДНЫ ВОДАПРАВОД

**Звычайныя водаправоды маюць вялікую даўжыню. Падводныя водаправоды будуюцца пераважна толькі для перасячэння рэк і маюць зусім скромныя размеры. Самы доўгі, праходзячы па дне мора, знаходзіцца ў Японіі і даходзіць да 13 кіламетраў.**

**Зараз у Вандзі (Францыя) будуецца падводны водаправод даўжынёй у 20 кіламетраў для забеспячэння пiцявой вадой вострава Іе. Гэты маленькі востраў, населены рыбакамі, вядомы ў прыватнасці тым, што на ім працуе першы аўтаматычны завод штучнага лёду, які вырабляе і адпускае сваю прадукцыю без удзелу чалавека. Толькі раз на месяц яго наведвае механік для правядзення прафілактычнага рамонту.**

### ★ ПАВІДЛА З ЯБЛЫКАЎ ★

**Нарэзаныя на долькі яблыкі пакладзіце ў каструлю, заліце вадой, накрыйце накрыўкай і варыце да мяккасці. Затым патрыце праз сіта (пакуль маса не застыла). У пюрэ ўсыпце цукар і варыце на слабым агні, часта памешваючы, пакуль не загусне (прыкладна 1 1/2 гадзіны).**

**На 1 кг яблыкаў: 1 кг цукру, 1 шклянку вады.**

✲

**Павідла, прыгатаванае з адных толькі яблыкаў, лёгка плеснее, таму рэкамендуецца варыць змешанае павідла, з дадаваннем воцату — тады яно больш устойлівае ў захоўванні.**

**Яблычнае павідла з воцатам падрыхтоўваецца так: 3 кг. яблыкаў, 1,5 кг цукру, 1/16 — 1/8 воцату.**

**Ачышчаныя яблыкі прапусціць праз мясарубку, перамяшаць з воцатам і цукрам і пакінуць на некалькі гадзін пастаяць; затым зварыць у шырокай каструлі да патрэбнай кансістэнцыі.**

### УСЯКАЯ ЎСЯЧЫНА

**■ Савецкія вучоныя і тэхнікі працуюць над праблемай стварэння зусім новага віду транспарту — падвесных маларэйкавых дарог для прыгарадных зносін. Хуткасць перамяшчэння на такіх дарогах будзе да 200 кіламетраў у гадзіну.**

**■ Племя двухметравых людзей Ватусі налічваецца ў 5-ці мільённай Урандзе - Урундзі толькі 20 тысяч асоб. Сярод многіх асаблівых звычаяў племені Ватусі варта ўспомніць аб спосабе кармлення дзяцей.**

**Да двух год дзеці кормяцца малаком маткі. Наступныя два гады салодкім і кіслым малаком кароў і коз. Толькі ў чацвёртым годзе жыцця дзіцяці даюць апрача малака бананы, гародніну і вельмі рэдка мяса. Магчыма ў такім меню хаваецца таямніца росту прыгожай будовы Ватусі?**

**■ К 1965 гаду ў СССР будзе вырошчвацца не менш 10—11 мільярдаў пудоў збожжа. Вытворчасць электраэнергіі к таму часу складзе звыш 500 мільярдаў кілават - гадзін.**

**Мы не заўсёды ўяўляем сабе, якія велізарныя гэтыя лічбы. Каб палічыць да аднаго мільярда, вымаўляючы кожную секунду чарговую лічбу, спатрэбіцца 32 гады, пры чым той, хто лічыць, павінен «працаваць» бесперапынна — без сну і адпачынку. Калі з мільярда запалак скласці дарожку, то яна ахопіць усю зямлю па экватары.**



### Электрычная гітара

**Атрад электрамузычных інструментаў папоўніўся навінкай. Сегедская фабрыка (Венгрыя) выпусціла электрычную гітару, у якую ўмантавалі ўзмацняючае абсталяванне на паўправадніках. Новы інструмент атрымаў добрую ацэнку слухачоў. На гэтай фабрыцы распрацавалі і электрабас.**

★ ★ ★

## МАСКІ ПРЫ МАРШЧЫНАХ

**Пры маршчынах карысна 1—2 разы ў тыдзень рабіць маскі для твару. Пры сухой скуры робяць наступныя маскі: 1) Бялкова - лімонна - солевая маска. Да збітага ў пену яечнага бялка дадаць сок палавіны лімона і соль на кончыку нажа. Пеністую масу намазаць пальцамі. Праз 15—20 мінут змыць вадой або працерці ватным тампонам змочаным смятанкай. 2) Яечна-талаконная маска. Збіты бялок або жаўток і 1/2 чайнай лыжкі мёду расцерці з талакном у мяккую пасту. Пры глыбокіх маршчынах пасту трэба рабіць больш вадкай. Пасту накладваюць на 15—20 мінут.**

**Пры тлустай скуры можна ўжываць наступныя маскі: 1) Дрожджавая маска. 20—25 г дрожджаў развесці малаком або маслам да гушчыні смятаны. 2) Дрожджавая кіслая маска. 25 г. дрожджаў развесці вадой да гушчыні смятаны, даць пастаяць да браджэння. Гэтыя маскі накладваюць тоўстым слоем, змываюць халоднай вадой, як толькі яны пачнуць падсыхаць. 3) Жытняя кіслая маска. Закваскай жытняй мукі змазваюць твар роўным слоем на 15—30 мінут, затым змываюць халоднай вадой.**



 

